*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***



# Наша слова




**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** **№ 21 (560)** **5 ЧЭРВЕНЯ 2002 г.**

**UNESCO, Саюз беларускіх пісьменнікаў, Беларускі дзяржаўны універсітэт, Белдзяржпедуніверсітэт імя М. Танка, Інстытут мовазнаўства імя Я. Коласа НАН Беларусі, Беларускі дзяржаўны універсітэт культуры, грамадскія аб'яднанні "Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны" і "Фонд імя Льва Сапегі" пры падтрымцы Міністэрства адукацыі, Міністэрства культуры, Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь і Нацыянальнай камісіі па справах UNESCO**

## Круглы стол:

# "БЕЛАРУСКАЯ МОВА. ІНТЭРНЭТ І КАМПУТАР"

*Менск, 20 траўня 2002 г. Беларускі дзяржаўны універсітэт культуры, вул. Рабкораўская, 17*

**Р Э З А Л Ю Ц Ы Я**

Мы, удзельнікі "круглага стала", канстатуючы ўваходжанне беларускага грамадства ў эпоху інфарматызацыі, пераход на кампутарныя тэхналогіі апрацоўкі тэкстаў, ***адзначаем***, што на сённяшні дзень функцыянаванне беларускай мовы ў галіне дакументаабарачэння і сродкаў масавай інфармацыі не забяспечана лінгвістычнымі праграмнымі сродкамі праверкі арфаграфіі, рэферавання тэкстаў, пераносу слоў, машыннага перакладу, аптычнага распазнавання тэксту; ***звяртаем*** увагу на адсутнасць электронных даведачна-інфармацыйных рэсурсаў на беларускай мове.

Зважаем, што ў краіне цалкам адсутнічае дзяржаўная палітыка, накіраваная на ўкараненне беларускай мовы ў інфармацыйных тэхналогіях, а таксама каардынацыя гэтай працы на нацыянальным узроўні.

У сувязі з гэтым лічым неабходным прыняцце зацікаўленымі дзяржаўнымі і грамадскімі арганізацыямі скаардынаваных дзеянняў па забеспячэнні паўнавартаснага функцыянавання беларускай мовы ў інфармацыйнай прасторы Беларусі.

Звяртаемся да: Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, Савета Міністраў Беларусі, Савета Рэспублікі Нацыянальнага Сходу, Палаты Прадстаўнікоў Нацыянальнага Сходу, Міністэрства інфармацыі, Камітэта па навуцы і тэхналогіях пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь, Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, Фонда інфарматызацыі, Міністэрства адукацыі з прапановай забяспечыць выкананне наступных першачарговых захадаў:

1. Заканадаўчым органам распрацаваць канцэпцыю асноўных кірункаў укаранення беларускай мовы ў інфармацыйнай сферы, прадугледзець дадатковае фінансаванне.

2. Стварыць электронны фонд (корпус) беларускай мовы як сукупнасць слоўнікавых і тэкставых крыніц, арганізаваных у базу дадзеных, на аснове распрацовак Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф. Скарыны, Інстытута мовазнаўства НАН Беларусі, навукова-даследчай лабараторыі інтэлектуальна-інфармацыйных сістэм БДУ.

3. Міністэрству інфармацыі Беларусі арганізаваць цэнтр па архівацыі электронных тэкстаў на беларускай мове, якія ствараюцца ў дзяржаўных выдавецтвах. Гэта дазволіць на дагаварной аснове выкарыстоўваць тэкставыя масівы ў распрацоўцы праграмных прадуктаў і электронных лінгвістычных рэсурсаў.

4. Прыярытэтнымі задачамі лічыць:

а) Распрацоўку сістэмы карэкцыі арфаграфіі беларускіх тэкстаў, а таксама сістэм машыннага руска-беларускага і беларуска-рускага перакладу, рэферавання тэкстаў беларускай мовы на аснове праграмаў НДЛ ІІС БДУ і іншых распрацоўшчыкаў. З гэтай мэтай давесці распрацоўкі НДЛ ІІС БДУ да ўзроўню карыстальніцкага прадукту, забяспечыць іх распаўсюджанне і вызначыць дзяржаўныя ўстановы, адказныя за ўкараненне і апрабацыю першых версій распрацаваных сістэм.

b) Лакалізацыю праграм аптычнага распазнаваня тэктаў. Прыняць прапанову кампаніі ABBYY увесці лінгвістычную падтрымку беларускай мовы ў праграмы для аптычнага распазнавання тэкстаў, у тым ліку FineReader.

5. Вырашыць пытанне ўключэння лінгвістычнай падтрымкі беларускай мовы ў папулярныя праграмныя прадукты апрацоўкі тэкстаў (Microsoft ды інш.)

6. Дзяржаўным выдавецтвам рэкамендаваць выданне электронных слоўнікаў, даведнікаў, энцыклапедый на беларускай мове. Навукова-метадычнаму цэнтру вучэбнай кнігі і сродкаў навучання пры Міністэрстве адукацыі забяспечыць стварэнне беларускамоўных версій метадычных і навучальных кампутарных праграм.

7. Стымуляваць стварэнне інфармацыйных кантэнт-рэсурсаў на беларускай мове ў сетцы Інтэрнэт, а таксама сістэм індэксацыі і пошуку беларускамоўных рэсурсаў у Інтэрнэце.

8. Органам дзяржаўнага кіравання Беларусі на працягу 2002 года забяспечыць афармленне ўласных інфармацыйных старонак у Інтэрнэце на беларускай мове.

9. Міністэрству фінансаў Беларусі, Камітэту па навуцы і тэхналогіях, Фонду інфарматызацыі разгледзець, а Нацыянальнаму сходу падтрымаць, магчымасць дадатковага фінансавання распрацовак, якія вядуцца ў межах вызначанай тэматыкі.

10. Звярнуцца да Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі з прапановай стварыць пры Фондзе інфарматызацыі каардынацыйную раду з прадстаўнікоў дзяржаўных устаноў і грамадскіх арганізацый па пытаннях падтрымкі беларускай мовы ў інфармацыйных тэхналогіях.

11. Правесці ў кастрычніку 2002 года чарговае пасяджэнне "круглага стала".

РЭСПУБЛІКА БЕЛАРУСЬ
МІНСКІ ГАРАДСКІ ВЫКАНАЎЧЫ КАМІТЭТ
КАМІТЭТ ПА АДУКАЦЫІ І СПРАВАХ МОЛАДЗІ
220030, г. Мінск, вул Кірава, 5
Тэл.: (017) 227-41-38, тэл./факс: 227-7728



РЕСПУБЛИКА БЕЛАРУСЬ
МИНСКИЙ ГОРОДСКОЙ ИСПОЛНИТЕЛЬНЫЙ КОМИТЕТ
КОМИТЕТ ПО ОБРАЗОВАНИЮ И ДЕЛАМ МОЛОДЕЖИ
220030, г. Минск, ул. Кирова, 5
Тел.: (017) 227-41-38, тел./факс: 227-7728

"15" 05 2002 г. № 6т-03/104
на № 241 ад "24" 04. 2002 г.

**Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны"**

Камітэт па адукацыі і справах моладзі Мінгарвыканкама разгледзеў заяву бацькоў вучняў 1 "А" класа СШ № 108 і інфармуе, што ў наступным навучальным годзе беларускамоўны клас будзе захаваны.

**Намеснік старшыні**
**Т. У. Злобіна.**

## *Калі за адраджэнне мовы, чытай, спадарства, "Наша слова"!*

*Шаноўнае спадарства, сябры ТБМ! Ідзе падпіска на газету ТБМ "Наша слова" на другое паўгоддзе 2002 года.*

*У папярэднім нумары мы адзначалі ўжо крытычны фінансавы стан нашай газеты. За тыдзень ён не палепшыўся. Гэты нумар ізноў ідзе ў крэдыт. Папярэдні аплачаны з грошай, **якія паступілі ад сяброў ТБМ у якасці ахвяраванняў**. Рэдакцыя робіць усё магчымае, каб палепшыць сітуацыю, і яна палепшыцца, але для гэтага патрэбны пэўны час. Сёння ж першыя грошы, на якія мы можам разлічваць, -- гэта грошы з падпіскі.*

*Мы просім усе арганізацыі ТБМ, як мага актыўней, правесці падпіску на газету "Наша слова", падпісаць яе для бібліятэк і школаў сваіх гарадоў і раёнаў. Але асабліва яшчэ раз мы просім, каб кожны сябар ТБМ падпісаўся сам і падпісаў свайго блізкага і знаёмага. Падпіска дасць нам магчымасць пратрымацца некалькі месяцаў. За гэты час мы спадзяёмся паправіць справы.*

Ф. СП - 1

**Міністэрства сувязі Рэспублікі Беларусь**

**АБАНЕМЕНТ** на газету / часопіс **63865** (індэкс выдання)

***НАША СЛОВА***
(назва выдання)

На 2002 год па месяцах:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | X | X | X | | | |

**Куды** (паштовы індэкс) (адрас)
**Каму** (прозвішча, ініцыялы)

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТАЧКА**

| ПВ | месца | літар |
|---|---|---|
| | | |

на газету / часопіс **63865** (індэкс выдання)

***НАША СЛОВА***
(назва выдання)

| Кошт | падпіскі | 1467 руб. | Колькасць камплектаў | 1 |
|---|---|---|---|---|
| | пераадрасоўкі | руб. | | |

На 2002 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | X | X | X | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)
Каму (прозвішча, ініцыялы)




## Грамадская ініцыятыва

Коштам Баранавіцкай гарадской арганізацыі Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны пабачыў свет адмысловы каляндарык на 2002-2003 гады з выявай Ігната Дамейкі на фоне касцёла ў Ішкальдзі. Гэта добры падарунак і памяць пра нашага славутага суайчынніка, вучонага з сусветным імем да ягоных 200-х угодкаў. Дарэчы, імя беларуса Ігната Дамейкі, нацыянальнага героя Чылі, унесена ў каляндар памятных датаў ЮНЭСКА і сёлета шырока адзначаецца не толькі ў Беларусі, але і ў Чылі, Польшчы, Літве, Францыі.

Аўтар дызайну Ігар Марачкін.

Каляндарык можна знайсці ў сядзібе Таварыства (Менск, вул. Румянцава, 13), а таксама ў Баранавічах (вул. Камсамольская, 28-65).

*У вянок Міхасю Ткачову*

# Ён вяртаў нам гістарычную памяць

## (Грунвальдскі вечар на МЗХ)

Асоба Міхася Ткачова, яго навуковая і духоўная спадчына, яшчэ доўга будуць прыцягваць увагу беларусаў і ўвесь час мы будзем знаходзіць у ёй нейкія нязведаныя мацерыкі і выспачкі, якія ахарактарызуюць Міхася Ткачова з іншага, невядомага нам, сучаснікам, боку.

60-гадовы юбілей Вялікага Беларуса ўскалыхнуў у ва мне ўспамін пра маю першую сустрэчу і знаёмства з Міхасём Ткачовым, якая адбылася пад час ініцыяванага ім Грунвальдскага вечара, што прайшоў на Менскім заводзе халадзільнікаў у 1990 годзе.

Ён адбываўся як раз тады, калі распачалася перабудова, калі парасткі галоснасці і дэмакратыі яшчэ не растапталі "прарабы перабудовы", калі больш чым сёння верылася ў цудоўную перспектыву для Беларусі і ў звязаныя з ёю перамены ў нашым асабістым жыцці. Адным з кампанентаў гэтых спадзяванняў на будучыя перамены мы бачылі ў вяртанні да сваіх гістарычных каранёў, у тым ліку, і да праўды аб беларускім удзеле ў Грунвальдскай бітве, якая вырашыла лёс усяго славянскага свету.

Пасля шматлікіх публікацый на гэтую тэму ў непадцэнзурным друку (у тым ліку і Міхася Ткачова), дзяржаўная прэса абрынула на галовы чытачоў памыі так званай "контрпрапаганды", завадатарымі і натхняльнікамі якой сталі духоўныя цэрберы абэцэдаршчыны. Сэнс яе зводзіўся да паўтору сумнавядомых тэзісаў гэтай псеўдагістарычнай "дактрыны". Палеміка з яе адэптамі выклікала розгалас і цікавасць ў шырокіх колах беларускага грамадства і асабліва сярод моладзі.

У гэты час на многіх прадпрыемствах ствараліся дыскусійныя клубы, не ў апошнюю чаргу, дзеля таго, каб найбольш актыўная ў сацыяльна-палітычным плане частка грамадства бяспечна для ўлады "спускала пару". Але часта гэтую трыбуну можна было выкарыстоўваць для прапаганды гістарычных і паліталагічных ведаў, для наладжвання свабоднай дыскусіі ў асяродках рабочай і тэхнічнай інтэлігенцыі.

Магчыма так і думалі тыя, хто запрашаў Міхася Ткачова на прадпрыемства з мэтай навуковага абгрунтавання праблемы і расповеду пра веліч вычыну беларускіх сыноў на Грунвальдскім полі ў 1410 годзе...

Тады, у 1990 годзе мяне, маладога журналіста заводскай шматтыражкі, Міхась Ткачоў уразіў сваёй перакананасцю патрыёта і аргументаванасцю дасведчанага навукоўцы, якія дапамагалі наладзіць падчас Грунвальдскага вечара атмасферу сапраўднага даверу і сумоў'я. Шмат пасля гэтай сустрэчы даводзілася назіраць ў такой сітуацыі за пісьменнікамі і іншымі прадстаўнікамі творчай інтэлігенцыі, але ніколі больш не сустракаў такога ўмення весці роўную размову з простымі людзьмі, зацікавіць іх самымі складанымі старонкамі айчыннай гісторыі, пераканаць іх у слушнасці беларускага погляду на тую ці іншую гістарычную падзею. Асабліва захапляла ўменне Міхася Ткачова цікава распавядаць пра любімыя старонкі беларускай гісторыі—беларускае абарончае дойлідства, Грунвальскую бітву, нацыянальную сімволіку і яе семантыку.

Але каб больш дакладна аднавіць сэнс слоў Міхася Ткачова на гэтай імпрэзе, прапаную звярнуцца да маёй справаздачы па яе выніках, што была апублікаваная ў заводскай газеце "Рабочае слова" ад 4 верасня 1990 года. У ім я прыводзіў словы Міхася Аляксандравіча, што прагучалі на гэтым, адным з першых мемарыяльных мерапрыемстваў, прысвечаных памяці герояў Грунвальда.

—У нашых гістарычных падручніках Грунвальдскай бітве адведзена ўсяго чатыры радкі. Чаму ж усе складаныя драматычныя і гістарычныя калізіі бітвы да гэтай пары не сталі прадметам дасканалага вывучэння гісторыкаў? Справа ў тым, што гераізм беларускіх ваяроў не адпавядаў дамінантнай "канцэпцыі", згодна якой да 1919 года Беларусь сваёй дзяржаўнасці не мела. Але наша гісторыя не залежыць ад "канцэпцый", якія нам навязалі ! Яна існуе ў зафіксаваных шматлікіх дзяржаўных і прыватных дакументах. І самы галоўны з іх—Статут Вялікага княства Літоўскага 1588 года. А гэта, як вядома, канстытуцыя нашай старабеларускай дзяржавы, выдадзеная, як дзяржаўны дакумент, на старабеларускай мове.

Іншая справа, што сама гісторыя Беларусі яшчэ аб'ектыўна не напісана. Тут будзе шмат работы для навукоўцаў, якія павінны дапамагчы народу вярнуць гістарычную памяць. А тое, што мы маем сёння—пакаленні людзей, якія не ведаюць і не жадаюць ведаць сваю гісторыю,—нараджаюць той сацыяльны біч, які названы нацыянальным нігілізмам ці цывілізаваным варварствам...

Хочацца адзначыць, што многія з прысутных на той памятнай сустрэчы з цягам часу спрычыніліся да справаў нацыянальнага Адраджэння—стваралі мясцовыя суполкі Беларускага народнага фронту, незалежных прафсаюзаў, актыўна ўдзельнічалі ў культурніцкіх і палітычных акцыях таго часу, фінансава дапамагалі выдаўцам беларускіх кніг, такіх як "Сцяна" Васіля Быкава, "Формула травы" Яўгена Гучка ды іншых. І адным з заўважных штуршкоў да гэтай дзейнасці стала іх сустрэча з гэтым незабыўным чалавекам і навукоўцам—Міхасём Ткачовым.

Здавалася б, лакальная імпрэза з удзелам Міхася Аляксандравіча Ткачова на Менскім заводзе халадзільнікаў мела агульнарэспубліканскі розгалас. Маладзёвая газета "Чырвоная змена" (ад 5 верасня 1990) па яе слядах адзначала зацікаўленасць маладых рабочых МЗХ гістарычнай тэматыкай і прыводзіла словы Міхася Ткачова, якім ён завяршыў вечарыну: "Прыйдзе час і Захад, і Ўсход яшчэ ацэняць мужнасць беларусаў пад Грунвальдам. А на месцы самай буйной бітвы сярэднявечча намі будзе збудаваная капліца ў беларускіх традыцыях. Неабходна зрабіць так, каб кожны свядомы беларус хоць раз у жыцці трапіў на Грунвальдскае поле"...

Пасля завяршэння Грунвальдскага вечара ў клубе МЗХ многія маладыя і больш сталыя рабочыя падыходзілі да вучонага і задавалі М. Ткачову пытанні, якія найбольш іх цікавілі. Спадар Міхась адказваў на іх з цярплівасцю і грунтоўнасцю, не зважаючы на розніцу інтэлектуальных "вагавых катэгорый". Гэта найбольш імпанавала работнікам, якія і сёння, пасля заўчаснай смерці навукоўца, успамінаюць тую незабыўную сустрэчу з Міхасём Ткачовым на заводскім Грунвальдскім вечары. Для мяне ж асабіста сустрэча з Вялікім Беларусам стала адным з краевугольных камянёў умацавання маёй беларускасці. З гэтымі ўдзячнымі пачуццямі я заўсёды ўспамінаю маё самае адметнае знаёмства ўсяго 1990 года.

***Анатоль Мяльгуй.***

*Наша фанаграфія*

# "ПАЛАЦ":

## "Чужыя дзеўкі", як прызнанне ў каханні беларускім прагажуням

Гурт "Палац"—на беларускай рок-сцэне адзін з самых паспяховых фолк-мадэрнавых музычных праектаў. Гэта тлумачыцца ўдалым спалучэннем музычных трэндаў (модных павеваў), сучаснага менэджменту, а таксама абумоўлены дасканалымі аранжыроўкамі беларускага фальклёру. Нагадаем, як ў пару дамінавання электроннага гучання "Палац" прапанаваў слухачам эксперыментальны альбом "Дарожка" (1997 г.), які замацаваў за гуртом рэнамэ калектыву, што ўвесь час знаходзіцца ў творчым пошуку. Калі беларускі музычны рынак высунуў неабходнасць нечага больш простага, але густоўнага—музыкі для клубнага выкарыстання,—"Палац" адгукнуўся дэнсавымі версіямі сваіх лепшых хітоў, аб'яднаных у альбоме "Танчыць "Палац"(2001). Гэтыя рытмічныя апрацоўкі беларускага фальклёру сёння выкарыстоўваюцца і эстрадна-танцавальнымі гуртамі, і цыркавымі трупамі, часта гучаць яны і на Беларускім радыё і тэлебачанні. (!)

Але не такія простыя гэтыя музыкі "Палаца", каб завершыць сваю кар'еру на танцавальна-пацяшальнай ноце. Бо, відавочна, беларускі фальклёр для іх—святая крыніца натхнення і пошукаў новага гучання гурта, якое, па меркаванні музыкаў, павінна быць сучасным, і, ў той жа час, адпавядаць традыцыйным крытэрыям. Да таго ж, нацыянальны фальклёр—скарбонка народнай мудрасці і гістарычнага досведу продкаў. Таму аднабаковы, "лёгкі" падыход да яго пярлін для музыкаў"Палаца" абсалютна непрымальны.

Вось гэтыя новыя падыходы "Палаца" да аранжыровак фальклёру, вынікі пошуку новага гучання гурта дэманструе слухачам і прыхільнікам іх чарговы альбом "Чужыя дзеўкі". Навінка стала магчымай дзякуючы супрацоўніцтву гурта з фанаграфічнымі фірмамі "Бусел-music" і "Westrecords" і адрозніваецца дасканалым мастацкім увасабленнем ў народна-гумарыстычным ключы. Гартаючы старонкі ўкладыша ў кампакт-дыск слухачы маюць "магчымасць" разам з музыкамі падглядаць за "чужымі дзеўкамі" і за гэта атрымаць порцыю ўяўнай лаянкі. На шчасце, толькі ўяўнай! Разгарніце дыск і зразумеце, што я маю на ўвазе...




А вось трэкліст альбома "Чужыя дзеўкі" пачынаецца са знаёмай па іншых фанаграфічных выданнях калядкі "А ў заенкі". У вялікай ступені, гэтая апрацоўка з'яўляецца паказальнай: слухачы адзначаць і складанае паліфанічнае ўвасабленне вакальных партый, і наяўнасць ў ансамблевым гучанні "жывых" бубноў ды бас гітары (А. Цераховіч і А. Шчыткавец), партыі якіх у ранейшыя часы даручаліся электронным інструментам.

Але ў цэнтры, як і раней у "Палацы", дамінуюць галасы і інструменты ветэранаў гурта—Алега Хаменкі (спеў, акустычная гітара), Юрыя Белякова (спеў, труба, жалейка), Змiцера Карабача (спеў, акардэон, лера). Іх выканаўчае майстэртсва, зладжаная ігра застаюцца візітоўкай знакамітага беларускага гурта. Гэтыя музыкі, акрамя іншых ансамблевых функцый, надаюць гучанню "Палаца" і неабходны для фолк-мадэрнавых калектываў кансерватызм з дапамогай сапраўдных аўтэнтычных інструментаў—беларускай дуды, колавай леры, парных дудак, жалеек, акарыны, цымбал ды сурмаў. У гэтым гурту дапамагаюць іх калегі па Беларускаму дзяржаўнаму ўніверсытэту культуры—гурт старажытнай беларускай музыкі "Гуды" (апрацоўка "Ой Купала" ды іншыя).

Больш заўважную чым раней нагрузку ў агульным гучанні на альбоме нясе і знакаміты "крамчук" (удзельнік гурта "Крама") Сяржук Трухановіч, які ўпэўнена сябе адчувае і ў кантры-фолкавых апрацоўках ("Дзеўка-семілетка") і ў акампанеменце ("Яварок"), і ў сольных блюзавых устаўках ("На турэцкіх палях").

Дарэчы, відэа-кліп на беларускую народную песню "На турэцкіх палях" гэтым годам атрымаў рок-карону на "Рок-каранацыі-2001". Гэта яшчэ адно сведчанне таго, што музыкі "Палаца" заслужана здабываюць папулярнасць і павагу сярод слухачоў. Пра тое, што яна ўзрастае год ад году прыйшлося ўпэўніцці пад час выніковага канцэрту "Рок-каранацыі-2001", на якім гучанне акустычных інструментаў, у тым ліку і традыцыйных, аздобленае імклівымі партыямі блюзавай гітары С. Трухановіча прымалася маладымі слухачамі на "ура".

Ёсць на дыску і знаёмыя па іншых фанаграфічных выданнях апрацоўкі, якія сталі ўжо прызнанымі хітамі. Маю на увазе беларускую народную песню "Яварок", якая тут з электроннай ператварылася ў акустычную версію, што нагадвае лепшыя часы знакамітага ансамбля "Песняры" пачатку свайго творчага шляху. Альбо хітавую вясельную песню "Ой долам", вядомую беларускім слухачам у самых розных аранжыроўках. Тут жа зоркамі, якія надаюць знаёмай мелодыі непаўторную свежасць, можна назваць выканаўцу на трубе Юрыя Белякова, гітарыста Сержука Трухановіча ды акардэаніста Змітра Карабача...

Акрамя гэтых студыйных запісаў дыск мае яшчэ і прыемны сюрпрыз—бонус-трэкі з канцэртнымі запісамі песень, якія змешчаны на гэтым дыску. Зроблены яны з мэтай параўнаць гучанне гурта і адчуць тое, што такое творчая эвалюцыя па-"палацаўску".

Упэўнены, што новая фанаграфічная работа гурта "Палац" знойдзе сваіх гарачых прыхільнікаў і сярод аматараў фальклёрных мелодый, і сярод прыхільнікаў рок-н-ролных рытмаў і рыфаў. Яе лірычны змест знойдзе водгук у слухачоў розных узростаў, а самым маладым нагадае пра тое, што самыя прыгожыя дзяўчаты жывуць побач, а самая прыгожая краіна на гэтай планеце—Беларусь. Таму слухаем новы дыск, каб дакрануцца да крыніц народнай мудрасці, якую вяртае нам, сучаснікам гурт "Палац" !

***Анатоль Мяльгуй.***

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

*Заснавальнік:*
ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:*
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:*
220005. г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:*
231300, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* ns@lida1.lingvo.grodno.by
**http://tbm.org.by/ns/**

*Рэдакцыйная калегія:*
Алена Анісім, Вадзім Болбас, Міхась Булавацкі, Людміла Дзіцэвіч, Ірына Марачкіна, Леакадзія Мілаш, Язэп Палубятка, Алесь Петрашкевіч, Людміла Піскун, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 3. 06. 2002 г.
Наклад 2700 асобнікаў. Замова № 1105.
*Падпісны індэкс:* 63865.
*Кошт падпіскі:* 1 мес.- 489 руб., 3 мес.- 1467 руб.
*Кошт у розніцу:* 120 руб.